Працай адзначым свята працы! Хто — у вёску, хто — на дачу!

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 79 (1642)**

Серада, 30 красавіка 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

### Да сустрэчы 3 мая!

*У сувязі з надыходзячым святам наступны нумар "Народнай волі", як і іншых газет, выйдзе ў суботу, 3 мая.*

***Надвор'е***

У Мінску сёння чакаецца ўдзень — +18...+20, уначы — +12...+14, дождж; у Брэсце ўдзень — +20...+22, уначы — +17...+19; у Гродне ўдзень — +20...+22, уначы — +14...+16, дождж; у Віцебску ўдзень — +15...+17, уначы — +8...+10; у Гомелі ўдзень — +17...+19, уначы — +11...+13; у Магілёве ўдзень — +18...+20, уначы — +11...+13.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Незаконная пошліна

Канстытуцыйны суд Беларусі прызнаў незаконным збіранне дзяржаўнай пошліны пры звароце грамадзян у суд і органы пракуратуры па працоўных спрэчках.

Як паведаміла прэс-служба Канстытуцыйнага суда, цяпер у Беларусі склалася практыка, калі пры звароце грамадзян па працоўных спрэчках у суды, уключаючы наглядныя органы, пошліна не бярэцца, а пры накіраванні наглядных скаргаў у органы пракуратуры — бярэцца. Гэта абумоўлена тым, што закон "Аб дзяржаўнай пошліне" дагэтуль не прыведзены ў адпаведнасць з Працоўным кодэксам у частцы вызвалення работнікаў ад уплаты судовых расходаў пры разглядзе працоўных спрэчак.

Канстытуцыйны суд прызнаў правамерным вызваленне грамадзян ад уплаты дзяржаўнай пошліны пры звароце ў суд першай і касацыйнай інстанцыі і "наяўнасць пэўных прававых падстаў для яе збірання пры накіроўванні наглядных скаргаў у органы пракуратуры".

З мэтай адназначнага тлумачэння заканадаўства і "больш поўнай абароны працоўных правоў грамадзян і інтарэсаў дзяржавы" суд унёс у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі прапановы па прывядзенні закона "Аб дзяржаўнай пошліне" ў адпаведнасць з Працоўным кодэксам.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Міністр культуры знайшоў у Оршы «крамолу»

Нагнаў страху на супрацоўнікаў аршанскай бібліятэкі імя А.С.Пушкіна высокі сталічны госць — міністр культуры Леанід Гуляка. Галоўнаму чыноўніку ад культуры страшэнна не падабалася, што чытачам бібліятэкі побач з дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі прапануюць падшыўкі "Белорусской деловой газеты" і "Народнай волі".

Расказваюць, што Леанід Гуляка аж пачырванеў і на высокіх нотах заўважыў, што "вредным оппозиционным изданиям не место в культурном центре, а тот, кто хочет их читать, пусть покупает в киосках "Союзпечати".

## «Кінулі» пенсіянераў

Нечаканая навіна азмрочыла надыход пенсійнага ўзросту ў работнікаў Варапаеўскага дрэваапрацоўчага камбіната, што ў Пастаўскім раёне.

Насуперак прынятаму ў 2000 годзе калектыўнаму дагавору, адміністрацыя прадпрыемства не выплаціла людзям, якія пайшлі на пенсію, адначасовую грашовую дапамогу. Тлумачэнне банальнае: у касе камбіната не хапае грошай. Мэбля, якую выпускае прадпрыемства, рэалізуецца дрэнна, з-за чаго і прыбытак мізэрны, і фонд спажывання адпаведны.

У аднабаковым парадку перагледзелі калектыўныя дагаворы і кіраўнікі іншых прадпрыемстваў раёна.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Падумаем пра сельскі турызм

У Браславе прайшла першая Міжнародная канферэнцыя па падрыхтоўцы стратэгіі развіцця сельскага турызму ў еўрарэгіёне "Азёрны край".

На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі 16 адміністрацыйных адзінак і органаў самакіравання памежных раёнаў Беларусі, Латвіі і Літвы.

Праект "Еўрарэгіён: кіраванне і маркетынг сельскага турызму", у рамках якога праходзіла сустрэча, быў падтрыманы праграмай TACIS. Еўрасаюз выдзеліў пад рэалізацыю гэтага праекта больш за 250 тысяч еўра. Большую частку гэтай сумы атрымаў беларускі бок, партнёрам якога выступае самакіраванне нямецкага горада Баўтцэн.

Рэалізацыя праекта заклікана даць штуршок развіццю сельскага турызму на тэрыторыі Беларусі, тым самым дазволіўшы прыцягваць дадатковыя паступленні ў мясцовыя бюджэты і пасадзейнічаць развіццю бізнесу.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Пад пагрозай пісталета

Са склада саўгаса імя Паліўкі Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці невядомыя зламыснікі выкралі насенне сталовых і кармавых буракоў на суму больш за 6 мільёнаў рублёў.

У міліцыю звярнуўся вартаўнік, які паведаміў, што ноччу ў службовае памяшканне ўварваліся трое невядомых. Пад пагрозай пісталета яны звязалі 56-гадоваму ахоўніку скотчам рукі і ногі, пасля чаго перапілавалі замкі і выкралі са склада 41 мяшок насення сталовых буракоў і 9 мяшкоў кармавых буракоў агульнай вагой 700 кілаграмаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**ТЕМА ДНЯ**

# Нужны ли белорусам военные конфликты?

В те дни, когда белорусы говорили друг другу "Христос Воскрес!", Александр Лукашенко обсуждал в далеком Душанбе вопрос о преобразовании Договора о коллективной безопасности в некую военную организацию, чем-то напоминающую бывший Варшавский договор. И поставил свою подпись, не спрашивая согласия на это у граждан своей страны.

Мы связались с рядом известных общественных деятелей, бизнесменов и задали им несколько вопросов. Вот что они ответили на них.



*Александр Ярошук.*



*Алексей Ваганов.*



*Сергей Гайдукевич.*



*Анатолий Труханович.*

### 1.Ваше мнение: существует ли военная угроза Беларуси?

**Сергей ГАЙДУКЕВИЧ, лидер Либерально-демократической партии:**

— Нет.

**Александр ЯРОШУК, президент Белорусского конгресса демократических профсоюзов:**

— Однозначно нет.

**Алексей ВАГАНОВ, председатель парламентской комиссии по денежно-кредитной политике и банковской деятельности:**

— Нет.

**Анатолий ТРУХАНОВИЧ, бизнесмен:**

— Конечно же, нет.

### 2.Правильно ли поступил Александр Лукашенко, поставив свою подпись в Душанбе?

**Сергей ГАЙДУКЕВИЧ:**

— Правильно.

**Александр ЯРОШУК:**

— Если исходить из логики, что нам никто не угрожает, то какой смысл брать на себя какие-то обязательства? Самое главное — это не втягиваться в какие-либо события за тысячи километров.

**Алексей ВАГАНОВ:**

— Правильно.

**Анатолий ТРУХАНОВИЧ:**

— Вступление в такие военные союзы — дело серьезное. Поэтому следовало бы обсудить вопрос в парламенте, а возможно, и вынести на референдум.

### 3.Не станет ли нищая Беларусь еще более нищей, из-за того, что вступила в так называемую Организацию Договора о коллективной безопасности?

**Сергей ГАЙДУКЕВИЧ:**

— Нищие бедными не становятся.

**Александр ЯРОШУК:**

— Известно, если в стране одето в военную форму более одного процента граждан, то она не сможет стать процветающей. У нас одето в такую форму около 3 процентов граждан. Ясно, что коллективная безопасность усилит давление на бюджет.

**Алексей ВАГАНОВ:**

— Нет. Не думаю, что затраты будут большими. Лучше кормить своих солдат, чем чужих.

**Анатолий ТРУХАНОВИЧ:**

— Когда речь идет об армии, то это дополнительные расходы. Они лягут на плечи налогоплательщиков. Если же Россия за размещение у нас своих баз и войск будет платить, то это может принести экономические выгоды.

### 4.Если вспыхнет военный конфликт где-нибудь в Таджикистане, Казахстане — благословите на участие в боевых действиях сына, брата, друга?

**Сергей ГАЙДУКЕВИЧ:**

— Я не благословлю ни одного гражданина Беларуси.

**Александр ЯРОШУК:**

— Нет.

**Алексей ВАГАНОВ:**

— На сегодняшний день это запрещено Конституцией и законом. В парламенте всего лишь имеется законопроект, судьба которого не известна. Не считаю, что белорусы должны защищать Душанбе или еще кого-то.

**Анатолий ТРУХАНОВИЧ:**

— Конечно же, нет.

***

*Комментарии, кажется, излишни... Читатели наверняка сами поняли, что скрывается за словами того или иного интервьюируемого.*

**БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ**

# Быстро только кошки родятся

*Путин пытается собрать под своей крышей авторитарных лидеров СНГ*

**Главный вопрос очередной СНГ-овской встречи в Душанбе — вопрос о том, как совместными усилиями обезопасить от реальных и гипотетических угроз шесть самых дружных стран содружества — Россию, Беларусь, Армению, Таджикистан, Казахстан и Кыргызстан. Подписаны документы о создании Организации Договора о коллективной безопасности (ОДКБ) — некоего аналога, как отмечают некоторые наблюдатели, Варшавского договора. Согласно подписанным документам, создается постоянно действующая организация со своим бюджетом и штатом чиновников, объединенным Штабом и Коллективными силами быстрого развертывания, куда каждая страна выделяет по одному батальону.**



Таким образом, мало что значащая и вяло функционирующая структура, о которой мы уже слышали раньше, по идеям ее вдохновителей, превращена в организацию, которая, с одной стороны, будет как бы противовесом НАТО, а с другой — не будет вступать с ней в открытую конфронтацию.

А. Лукашенко, поставив свою подпись, фактически раскритиковал еще не начавшую функционировать структуру: *"Группа экспертов высокого уровня в мае в Минске соберется в четвертый раз, а движения вперед нет. Если так и дальше будет продолжаться, то мы не будем участвовать в этой организации, поскольку это лишняя трата времени". Лукашенко, как утверждает его пресс-служба, добавил, "что в рамках ЕвразЭС можно было бы использовать интеграционную модель, которая уже отработана в рамках Союза Беларуси и России".*

Напомним, что Договор коллективной безопасности (ДКБ) был подписан руководителями Армении, Беларуси, Грузии, Казахстана, Кыргызстана, России, Таджикистана и Узбекистана еще в мае 1992 года в Ташкенте. Через год к договору присоединился Азербайджан. В мае 1999 года из состава участников ДКБ вышли Азербайджан, Грузия и Узбекистан, которые совместно с Молдавией и Украиной создали свою военную организацию. Оставшиеся в договоре шесть стран в мае 2000 года предприняли усилия по повышению эффективности ДКБ и адаптации его к новым политическим условиям. В частности, началось формирование коллективных сил быстрого развертывания (КСБР) в Центральной Азии общей численностью 1,5 тыс. военнослужащих, антитеррористического центра в Москве с филиалом в Бишкеке и т.д. Белорусские интересы в этих структурах просматривались разве что при помощи электронного микроскопа.

Забавно все-таки наблюдать за действиями в Душанбе А. Лукашенко. Автор и покровитель "вялотекущей свинки" под названием "Союз России и Беларуси" приводит ее в пример вновь созданному и поощряемому В. Путиным образованию. Остается неясным, почему Лукашенко решил, что очередная интеграция в рамках "политического трупа" под названием "СНГ" станет вдруг счастливым исключением. Ведь объединительный опыт содружества наглядно демонстрирует, что быстро только кошки родятся. А интеграция — процесс длительный. Можно сказать, хронический...

**Наталья ГАК.**

**ДО-ЖИ-ЛИ!**

# В Беларусь возвращается карточная система?

Правители страны заговорили о "разработке и внедрении единых нормативов социального стандарта по обслуживанию населения". Говоря обычным языком, речь идет о введении своеобразной "карточной системы".

Люди старшего поколения помнят, что это такое.

Каждому гарантировался минимум чего-то: хлеба, сахара, мыла и т.д.

Карточная система образца 2003 года, вводимая в Беларуси, — это система, когда каждому будет гарантирован минимум чего-то якобы бесплатного в здравоохранении, в жилищно-коммунальной среде и т.д. Нас отбрасывают на полвека и более назад.

Но государственная пропагандистская машина уже аплодирует: как это прекрасно!

Даже агитпроп Жданова и Суслова не прославлял карточную систему. Мощная пропагандистская кампания была проведена лишь тогда, когда ее отменили.

А вы посмотрите на эти снимки! Увязываются ли они с неуклюжим и тупым пропагандистским обеспечением "социальных стандартов"? Как когда-то горько шутили: пришла весна, настанет лето — спасибо партии за это...

Гражданин Беларуси!

Что ты думаешь об этих позорных "социальных стандартах"?

Скажи свое слово.

**Фото IREX/ProMedia.**









ЭКАНАМІЧНЫ БАРОМЕТР

## Хочаце 5 тысяч долараў?

Стартаваў другі этап конкурсу праектаў, накіраваных на развіццё прадпрымальніцтва.

Ён праводзіцца ў рамках сумеснага праекта беларускага ўрада і Праграмы развіцця ААН "Актывізацыя прадпрымальніцкай дзейнасці праз развіццё партнёрства дзяржавы і прыватнага сектара". Пра гэта было заяўлена на семінары, які прайшоў у Мінску з удзелам прадстаўнікоў цэнтраў падтрымкі прадпрымальніцтва, саюзаў прадпрымальнікаў, грамадскіх арганізацый, упраўленняў прадпрымальніцтва аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама, беларускіх і міжнародных фінансавых арганізацый.

Як паведаміў кансультант сумеснага праекта Генадзь Гайко, удзельнічаць у конкурсе могуць юрыдычныя асобы незалежна ад формы ўласнасці, якія маюць вопыт працы ў галіне падтрымкі прадпрымальніцтва. Прыярытэт аддаецца праектам, накіраваным на пераадоленне адміністрацыйных бар'ераў, удасканаленне крэдытавання суб'ектаў малога прадпрымальніцтва і сістэмы падтрымкі прадпрымальніцтва, праекты ў галіне экалогіі і сацыяльнай сферы.

Дакументы для ўдзелу ў конкурсе прымаюцца да 30 мая. Пераможцам, якіх конкурсная праграма аб'явіць напрыканцы чэрвеня — пачатку ліпеня, для рэалізацыі праектаў будуць прадастаўлены міні-гранты ў памеры да 5 тыс. долараў ЗША.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**




*Стэнд "Лідскага" піва падчас Міжнароднай выставы "Бістро. Піва. Напіткі", якая адбылася ў Мінску. На ёй былі прадстаўлены напіткі і абсталяванне для кафэ і рэстаранаў беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх вытворцаў.*

**Фота IREX/ProMedia.**

## Пры жыцці не дачакаюцца

**Пры цяперашніх тэмпах газіфікацыя Брагінскага раёна будзе завершана праз 200 гадоў, лічыць старшыня райвыканкама**

Напярэдадні 17-й гадавіны чарнобыльскай трагедыі завершана пракладка магістральных газавых сетак да вёскі Буркі калгаса "Чырвоная ніва" Брагінскага раёна. І гэта адзіная гаспадарка ў раёне, дзе поўная газіфікацыя населеных пунктаў, запланаваная ў першыя гады пасля аварыі, ажыццёўлена не толькі на паперы, але і на справе.

Прычына хранічнага невыканання многіх паслячарнобыльскіх абяцанняў, паводле слоў старшыні Брагінскага райвыканкама Рычарда Стэфановіча, у адсутнасці фінансавання запланаваных аб'ектаў у поўным аб'ёме альбо нерытмічнае паступленне сродкаў. На жаль, разлічваць на нейкія кардынальныя змены ў найбліжэйшай будучыні не даводзіцца, паскардзіўся ён.

Апошнім часам узнікла яшчэ адна сур'ёзная праблема, зазначыў кіраўнік раёна. Справа ў тым, што пэўную частку кошту падвядзення газу непасрэдна да прыватных дамоў цяпер павінны аплаціць іх гаспадары. Сума гэтая значная. І калі ўлічваць, што ў брагінскіх вёсках засталіся пераважна пенсіянеры, якім проста няма адкуль браць такія грошы, то газу пры жыцці яны наўрад ці дачакаюцца. Значыць, будуць па-ранейшаму спальваць у печах насычаныя радыенуклідамі дровы, "узбагачаючы" навакольную прыроду стронцыем ды іншымі "жыццястойкімі" элементамі.

"Узнікае пытанне, — гаворыць Р.Стэфановіч, — разважаючы на розных узроўнях аб чарнобыльскай бядзе і мінімізацыі яе наступстваў, ці не забыліся мы пра тых, для каго ўсё гэта павінна рабіцца?".

Паводле яго слоў, пры захаванні цяперашніх тэмпаў газіфікацыі раёна яна завершыцца не раней чым праз 200 гадоў.

**Наталля ВАСІЛЕВІЧ.**

## На сто пенсіянераў — адна пуцёўка

**Для атрымання бясплатнай пуцёўкі ў санаторый пенсіянерам Брэсцкай вобласці даводзіцца чакаць у чарзе да пяці гадоў.**

Пра гэта паведаміў начальнік камітэта працы і сацыяльнай абароны насельніцтва Брэсцкага аблвыканкама Пётр Яцкевіч на прэс-канферэнцыі, якая прайшла ў санаторыі "Белая вежа" ў Камянецкім раёне і была прысвечана праблемам санаторна-курортнага забеспячэння. Паводле яго слоў, сёння на сто пенсіянераў і асоб, якія атрымліваюць дапамогі, прыходзіцца адна пуцёўка ў год. Чарга на атрыманне бясплатных пуцёвак складае 20 тысяч чалавек, прычым многія з іх маюць вострую патрэбу ў аздараўленні.

"Летась у Трускавец трэба было накіраваць 200 чалавек, а змаглі адпачыць толькі 12", — сказаў Пётр Яцкевіч.

Сёлета адлічэнні з Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва на санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне зменшаны на 55 мільярдаў рублёў у параўнанні з раней запланаванай сумай. Вызваленыя сродкі накіроўваюцца на пенсіі і іншыя выплаты. Пра гэта паведаміў намеснік генеральнага дырэктара УП "Белпрафсаюзкурорт" Аляксандр Казак. Скарачэнне фінансавання санаторна-курортнага лячэння ва ўмовах зніжэння жыццёвага ўзроўню значнай часткі насельніцтва Беларусі, зазначыў ён, можа прывесці да таго, што дзесяткі тысяч людзей, што маюць патрэбу ў лячэнні і аздараўленні, будуць пазбаўлены такой магчымасці. Усё гэта, лічыць А.Казак, адаб'ецца на здароўі насельніцтва, прывядзе да павелічэння часовай непрацаздольнасці і як вынік — "да непазбежнага росту расходаў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва на аплату дапамогі".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## «Цэлафанавы» падатак

Падобна, беларускія ўлады турбуюцца не столькі пра народ і яго дабрабыт, колькі пра тое, якія новыя падаткі яшчэ прыдумаць, каб выцягнуць у чалавека апошнія рублі.

Тут фантазіі ў чыноўнікаў хоць адбаўляй. Апошнім часам пашыраецца ўпакоўка хлеба ў цэлафан. Раней для гэтага ў тых жа хлебных аддзелах набываліся цэлафанавыя мяшкі. Іх можна выкарыстоўваць не адзін месяц. Цяпер жа прыйдзеш па хлеб, а твае любімыя гатункі ўжо ўпакаваны ў цэлафанавы пакет. Вымушаны браць, пры гэтым кошт хлеба павялічваецца на 20—30 рублёў.

Здавалася б, невялікія грошы. Але ж хлеб мы ядзім штодня. Таму за месяц набягае немалая сума, асабліва для пенсіянера. Ды і дзяржава мае салідны навар. Давайце прыкінем. У краіне 2—3 мільёны сем'яў. Кожная ў дзень купляе па бохану хлеба. Памножце два-тры мільёны на 20—30 рублёў і атрымаецца, што дзяржава толькі за кошт такога "цэлафанавага падатку" мае як мінімум 40 мільёнаў рублёў штодзённа. А ў месяц, год?

Могуць запярэчыць, што гэта, маўляў, не падатак, а паляпшэнне абслугоўвання. Так, афіцыйна падаткам гэта не называецца, але выкачванне грошай з людзей, як кажуць, відавочнае. І справа тут не толькі ў паляпшэнні абслугоўвання.

Тое ж назіраецца і з увядзеннем экспрэсных, камерцыйных маршрутаў на транспарце. Іх напладзілася нямала.

Канешне, у прынцыпе, няблага, калі ёсць выбар. Хочаш праехаць больш камфортна ці хутчэй, сядай у камерцыйны ці экспрэсны аўтобус і плаці больш. Але што мы бачым на справе? Тыя экспрэсныя і камерцыйныя маршруты часта адрозніваюцца ад звычайных толькі двайной платай. Аўтобусы такія ж абшарпаныя, спыняюцца на тых жа прыпынках, але чамусьці называюцца камерцыйнымі, і вось толькі за гэта выкладвай за праезд у два разы болей.

Паспрабуйце дабрацца на мінскі рынак "Ждановічы" звычайным транспартам. Туды ідуць у асноўным толькі экспрэсы. Словам, выбару няма. Як усё гэта назваць? Ды не інакш, як камерцыйным ці экспрэсным падаткам ці паборамі.

А добра вядомая пеня. Не заплаціў своечасова камунальныя плацяжы — налічваюць пеню. А як ты іх заплаціш своечасова, калі зарплату выдаюць намнога пазней. Да таго ж яе часта затрымліваюць. Нібыта чыноўнікі дамовіліся паміж сабою: надалей затрымаць выплату заработнай платы, каб такім чынам вырасла пеня. Як гэта назваць? Ды пеня-падаткам ці пеня-паборамі.

Прыкіньце, і атрымаецца, што за кошт толькі названых пабораў у месяц выцягваецца з кішэні кожнага не менш як 5 тысяч рублёў. Дзякуючы такому рабаванню многія чыноўнікі "купаюцца ў масле" ды ездзяць на іншамарках.

**Алесь ДРАБЧУК.**

# Семечки

**Возможно, когда-нибудь наши потомки главным стратегическим продуктом, который помог нации выжить, назовут... семечки**

Торговля семечками — это явление социально-экономическое, обучившее многих людей основам бизнеса, и в то же время — вид деятельности, сформировавший из вчерашних учителей, врачей, рабочих и домохозяек отчаянное и закаленное поколение. В любую пору года: в мороз, дождь, изнуряющую жару — несут они вахту возле своих мешочков, из которых торчат разнообразные стаканчики. Иногда, в силу жизненных обстоятельств, появляется в их рядах и более молодой народ.

Недавно, стоя на остановке, я с интересом наблюдала, как бойко торгует семечками общительная симпатичная женщина пенсионного возраста. Время для этого она выбрала удачное: "час пик", люди разъезжаются по домам после работы. Место тоже подходящее, рядышком три остановки: метро, автобуса и троллейбуса. Я подошла, и мы разговорились. Назвалась женщина Галиной Павловной, фамилии не сообщила.

— Видите, женщине с высшим образованием приходится семечки продавать, — сказала она, — а иначе невозможно выжить. Я часто болею, а лекарства дорогие. Сын работал, потом уволился, думали, в армию его заберут, а врачи признали больным и сейчас он пока не работает, лечится.

— А милиция вас часто гоняет? — спросила я Галину Павловну. — Или откупаетесь?

— Бывает, хорошие милиционеры попадаются, а бывает, — она понизила голос, — и ругаются, и обзывают нас по-всякому, и даже семечки подфутболивают! Тянут в милицию, протоколы составляют, а мы штрафы платим. А потом возвращаемся и опять продаем.

— А кто вы по специальности?

— Я — инженер-строитель. 37 лет на одном месте проработала и такая пенсия — всего 106 тысяч рублей! Я сколько раз пробовала по специальности на работу устроиться, позвоню — говорят, подходите нам! А как узнают, что пенсионерка, — нигде не берут! Никому не нужны пенсионеры!

— Семечки где покупаете, на Комаровке?

— На Комаровке, с Украины их привозят. По 4—6 килограммов покупаю, на большее денег нет. Потом мою, солю, жарю...

— Зарабатываете прилично на торговле?

— Да где там! Сейчас в киосках семечки появились, так у нас плохо покупают! За день продашь стаканов пять... Но мы целый день не стоим, приходим на пару часов только. Здоровье надо иметь — целый день стоять!

А по-моему, торговля у Галины Павловны шла неплохо: при мне, примерно в течение получаса, купили у нее не менее десяти стаканов семечек. Стаканчики небольшие, разной емкости. Совсем маленький стаканчик семечек шел по 150 рублей, тот, что побольше, — по триста. Учитывая, что килограмм сырых семечек стоит полторы тысячи, затраты на него за полчаса Галина Павловна окупила с лихвой. Приобрел пару стаканчиков даже "упакованный" во все фирменное джентльмен средних лет, предварительно поинтересовавшись, найдется ли с доллара сдача. По реакции Галины Павловны я поняла, что это ее первая валютная сделка, однако кое-как с курсом доллара разобрались, и мужчина, щелкая семечки, удалился.

Кроме семечек, Галина Павловна торговала и вяленой рыбкой величиной с ладонь. За ту, что побольше, она просила 400 рублей за штуку, за ту, что поменьше, — триста. Рыбу охотно брали молодые люди — к пиву. Выловлена она, судя по всему, была недавно, Галина Павловна, указывая на толстые брюшки рыбешек, говорила покупателям: "Видите, с икрой!". А еще сообщала, что рыба плавала в Браславских озерах, из чего я сделала вывод, что любители пива просто обожают рыбу, которая водится именно в Браславских озерах. А может, имелось в виду, что продукт экологически чистый. На мой вопрос "Откуда рыбка?" Галина Павловна сдержанно ответила, что ее угостили, в чем я, честно говоря, усомнилась. Однако коммерческая тайна — это святое, а я — не налоговый инспектор.

Внезапно моя собеседница исчезла, словно растворившись в воздухе, и на ее месте, вынырнув откуда-то, оказался молодой милиционер. Оперативно и бдительно заглянув за киоски и даже дважды обежав наиболее подозрительные из них, он сурово сообщил мне, что статьей 148 Кодекса Республики Беларусь об административных нарушениях торговля в неустановленном месте карается предупреждением, а затем — штрафом, размеры которого устанавливает суд. Все это время Галина Павловна с невинным видом изображала деловую женщину, ожидающую автобус. Милиционер исчез, она



снова возникла на прежнем месте.

— А почему вы не торгуете в установленных местах? — поинтересовалась я, находясь под впечатлением полученной информации.

— В каких? — горько сказала Галина Павловна. — С Раковского рынка нас гонят, говорят, что мусорим, хотя мы всегда убираем за собой, на Комаровке все места раскуплены приезжими, и белорусскому человеку там вообще делать нечего! Не индивидуальными же предпринимателями пенсионерам ради семечек оформляться!

**Анна АРТЮШКЕВИЧ.**
**Фото IREX/ProMedia.**

СИТУАЦИЯ

# Помогите скульптору Горбаневу!

Живет в Гомеле замечательный скульптор — **Геннадий Горбанев.** Член Союза художников Беларуси. Широко известный поклонникам ваятельного искусства Гомельщины.

Недавно в городе состоялось торжественное открытие памятника А.Пушкину. Автор удачного изваяния поэта тоже Геннадий Горбанев.

Трепетная, нежная, глубокая и возвышенная поэзия Пушкина питала нелегкий труд скульптора. Но не получилось без сучка и задоринки. Для памятника не нашлось бронзы. И скульптор отвез на "Центролит" более 100 килограммов данного металла из личных запасов. Кстати, стоимость материала ему никто не возместил. Не пригласили Геннадия Тихоновича и на открытие памятника. Не очень обласканный вниманием к своей персоне, он этому факту большого значения не придал. Сегодня его волнуют другие проблемы.

Что в первую очередь необходимо художнику? Чтобы его труд был востребован. А Геннадию Горбаневу ежедневно приходится созерцать свой невостребованный труд...

Десять лет назад, в период подготовки празднования юбилея города, Геннадий Тихонович получил заказ от городских властей на скульптурную композицию для фонтана у цирка. Выпускник Ленинградского института живописи, скульптуры и архитектуры имени И.Е.Репина с воодушевлением взялся за работу. Подчеркну, что в своем творчестве Горбанев отдает предпочтение женской пластике. В скульптурной группе Геннадия Тихоновича, которую предполагалось установить у цирка, женская пластика покоряет глаз. И название ей автор придумал чарующее — "Юность".

На расширенном экспертном совете работа была принята и рекомендована к отливке в бронзе. Создан был и денежный фонд для этих целей. Но...

Жизнь стала стремительно меняться, галопирующая инфляция разбивала в пух и прах все экономические прогнозы. И руководству города было уже не до скульптурных групп.

Скульптор, жалея собственный труд, оставил огромную гипсовую скульптуру у себя в мастерской, где она и по сей день находится, покрываясь пылью. *"А могла бы стать изюминкой города",* — отметил В.Мелех, главный архитектор города, после посещения мастерской скульптора...

Такая же участь постигла и заказанную Горбаневу скульптуру, которую предполагалось установить у центрального роддома города. Ее Геннадий Тихонович выполнил в мраморе. Посетители его мастерской невольно останавливаются перед этой скульптурой, изображающей мать и дитя. Прекрасная пластика, мастерское композиционное решение...

Говорят, ко всему можно привыкнуть. К плохому тоже.

Горбанев неоднократно обращался к администрации Гомельского вагоноремонтного завода с просьбой разрешить ему приватизировать помещение, где находится его мастерская, по квартирным расценкам с целью создания в нем частного музея скульптуры (экспонатов уже предостаточно). Подчеркнем, что экспонаты — прекрасные. Иными из них могли бы гордиться престижные музеи мира. Работы Горбанева неоднократно были отмечены на многочисленных городских, республиканских и зарубежных выставках. Сегодня, по словам Геннадия Тихоновича, *"идет травля на предмет вышибания меня из данного помещения арендной платой, платой за землю и судебными исками со стороны вагоноремонтного завода с целью перепродажи помещения и переоборудования его под корчму или винно-водочный магазин. Торгаши разных мастей стремятся хапнуть это помещение любой ценой, не считаясь с разрушением целого культурного пласта",* — именно так он написал в своем письме А.Лукашенко.

Председатель областной организации Союза художников А.Отчик видит выход из сложившейся ситуации в том, чтобы горисполком взял на баланс мастерскую скульптора. Тогда сразу была бы решена и проблема с оплатой.

Действительно, неужели так трудно городским властям помочь обустроить частный музей?

Почему талантливый художник, скульптор, автор десятков бюстов, мемориальных досок должен жить со страхом угрозы потерять ту малость, что имеет?

В живописный уголок города вписался памятник А.С.Пушкину, чуть дальше — у моста через Сож — стоит памятник воинам полка народного ополчения и гомельским героям-подпольщикам, закончена работа над бронзовым ликом памятника воинам-интернационалистам, погибшим в Афганистане и других горячих точках планеты, который будет установлен в 5-м микрорайоне Гомеля. Автор этих и многих других работ — Геннадий Горбанев. Художник, которым город должен гордиться...

**Владимир БАБКОВ.**
*Гомель.*

## Наш самазвал павязе 220 тон!

Беларускі аўтамабільны завод (БелАЗ) (Жодзіна, Мінская вобласць) асвоіў серыйную вытворчасць кар'ернага самазвала "БелАЗ 75306" грузапад'ёмнасцю 220 тон.

Як паведаміў БелаПАН тэхнічны дырэктар прадпрыемства Рыгор Гарачы, асноўным рынкам збыту новых самазвалаў стане Расійская Федэрацыя. "БелАЗ 75306" прызначаны для перавозкі горнай масы і іншых сыпучых грузаў на адкрытых распрацоўках радовішчаў карысных выкапняў. Самазвал можа працаваць у розных кліматычных умовах пры тэмпературы ад — 50 да + 40 градусаў па Цэльсію.

"БелАЗ 75306" аснашчаны дызельным рухавіком QSK-60 фірмы "Камінс" (ЗША), цягавым генератарам магутнасцю 1.400 кВт, цягавымі электрарухавікамі магутнасцю 590 кВт. Максімальная хуткасць самазвала — 40 кіламетраў у гадзіну, а маса загружанай машыны — 372 тоны.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Задушыў бабульку

Супрацоўнікі Бешанковіцкага РАУС раскрылі забойства 80-гадовай мясцовай жыхаркі, якая была пахвана як памёрлая без прыкметаў гвалтоўнай смерці.

Паводле слоў супрацоўнікаў групы інфармацыі УУС, 23 красавіка жыхарка вёскі Жахоўшчына (Бешанковіцкі раён) была знойдзена мёртвай ва ўласным доме без прыкметаў гвалтоўнай смерці і пахаваная на мясцовых могілках. Пазней у распараджэнні міліцыі з'явілася інфармацыя, што смерць жанчыны наступіла, як мяркуецца, у выніку ўчынення злачынства.

26 красавіка была праведзена эксгумацыя, па выніках судова-медыцынскага даследавання труп устаноўлена, што пенсіянерка памерла ад механічнай асфіксіі. Падчас следча-аператыўных мерапрыемстваў супрацоўнікі міліцыі высветлілі, што злачынства ўчыніў мясцовы жыхар, 1986 года нараджэння. Паводле папярэдняй версіі, як паведамілі ў групе інфармацыі УУС, 21 красавіка вучань восьмага класа, зайшоўшы ў дом, стаў вымагаць у пажылай жанчыны грошы. Атрымаўшы адмову, ён задушыў гаспадыню дома.

**Сяргей КОЧАТАЎ.**

ПО СУЩЕСТВУ

## Неужели?

*Выступая с лекцией "Исторический выбор Республики Беларусь" в Белорусском государственном университете, Александр Лукашенко утверждал: "Если говорить о белорусском государстве, моя точка зрения однозначна... Наше белорусское государство существует с 1 января 1919 года, со времени образования БССР".*

После этого, как говорится, сам выскакивает вопрос, вынесенный в заголовок. Неужели БССР была государством?

В той же лекции, касаясь Белорусской Народной Республики, Александр Григорьевич говорил, что "БНР, о которой, кстати, много говорят... не признанная никем в мире, не имея необходимых атрибутов государства, не стала реальным государством. Если у вас, у кого-то из сторонников этой идеи, есть иные факты и вы можете доказать, что это было государство, признанное во всем мире, — я хотел бы, чтобы эти факты были представлены".

Опираясь на такой подход, сам напрашивается следующий вопрос: "А кто в мире признавал государством БССР? Кто видел тогда посольства других стран в Минске или белорусских послов в иных государствах?".

Теперь перейдем к другим "необходимым атрибутам государства". Напомним, что к ним относятся общая территория и границы, собственная денежная система и армия, собственная власть... Разве имела это БССР? Скажите, имела БССР собственные деньги, находясь в составе СССР? Конечно же, нет. А собственную армию? Тоже нет. А охраняемые границы? Вы тогда видели таможни на границе с Литвой и Украиной?

Нелишним будет напомнить, что тогда любое экономическое решение, даже такое, как строительство Дворца культуры или кинотеатра в Минске, других городах, принималось в Москве. Чтобы убедиться в этом, достаточно полистать решения Бюро ЦК КПБ. Значит, не было у белорусов никакой реальной власти, еще одного важнейшего атрибута государства.

Как же после всего этого можно утверждать, что БССР была государством?

Если Александр Григорьевич имеет "иные факты и может доказать, что это было государство, признанное во всем мире", то "хотелось бы, чтобы эти факты были представлены", чтобы он хотя бы перечислил посольства, какие были в Минске, да сказал, как назывались тогда белорусские деньги. А то мы что-то не помним.

Неужели наша государственность начинается лишь с 1919 года? Тогда государственность России, очевидно, начинается с октября 1917 года. А до этого не было государственности ни у белорусов, ни у украинцев, ни у русских? В таком случае не лучше ли сразу перейти к следующему и объявить: белорусская государственность началась с 1994 года с приходом к власти Александра Григорьевича. Не к этому ли все клонится?

В названной лекции немало подобных голословных утверждений и даже путаницы. Так, утверждается, что включение наших земель в состав Российской империи "имело для белорусского этноса спасительный характер", ибо это "способствовало развитию зарождающейся промышленности", втягиванию наших земель во всероссийский рынок, что содействовало их развитию.

Неужели? Неужели это было спасение? Тогда вспомним, что последовало после насильственного присоединения Беларуси к России. А последовала русификация... Затем были революция 1917 года, Гражданская война, голод и сталинские репрессии 30-х годов, Великая Отечественная война, брежневский застой... Столько замучено, убито, искалечено белорусов, на сколько лет назад отброшено наше общество в своем развитии? Вот такое получилось "развитие".

Финны, которые в 1917 году вырвались из Российской империи, прожили совсем иную жизнь.

Неужели только "включение" в состав России способствовало "развитию зарождающейся промышленности" в Беларуси? А "включение" в Европу не способствовало бы этому? Ведь именно Европа шла впереди по развитию промышленности, а Россия отставала. Так что "включение" в Российскую империю лишь замедлило развитие экономики. Как можно этого не понимать?

В этой же лекции есть важные слова: "Уж очень много мифов, подтасовок и политизированных инсинуаций появилось в последние 15 лет" в исторической теме. Что верно, то верно. Давно пора отказаться от "мифов и политизированных инсинуаций", навязанных коммунистической идеологией.

**Алесь ДРАБЧУК.**

# Рыбный импорт — на крючке

**Юлия ШАРОВА**

Монополия Управления делами президента на импорт рыбы окончательно узаконена. 23 апреля Лукашенко подписал указ "О государственном регулировании импорта, переработки, реализации океанической рыбы и морепродуктов". Документ отдает УД право полного контроля над этой сверхприбыльной статьей импорта — во имя "обеспечения полноты поступлений в бюджет и защиты экономических интересов государства". Впрочем, государственные интересы могут существенно разойтись с интересами потребителей, ведь из-за установления монополии цены на рыбу скорее всего возрастут.

Официальное объяснение причин появления этого указа выглядит следующим образом: ныне на рыбном рынке страны работает около 600 субъектов хозяйствования, а переработку рыбы осуществляют 248. Основная часть из них не имеет должных условий для хранения рыбы и морепродуктов, а также их переработки. Деятельность этих субъектов хозяйствования не скоординирована. На государственном уровне этими проблемами занимаются Управление делами, Минсельхозпрод, Минприроды, Минторг, Белкоопсоюз, местные исполнительные и распорядительные органы. Их функции пересекаются и дублируются. Все это дает простор развитию теневого рынка, а государственный бюджет несет урон. Принятый же указ позволит усилить государственный контроль над деятельностью всех юридических лиц и индивидуальных предпринимателей, занимающихся импортом, переработкой и реализацией океанической рыбы и морепродуктов, а также обеспечить население Беларуси качественной рыбой и морепродуктами по доступным ценам.

В общем, чтобы исправить ситуацию, функции "единого координатора" возлагаются на УД. И квоты на импорт рыбы для индивидуальных предпринимателей и юридических лиц управление определять будет, и лицензию на переработку рыбы да морепродуктов выдавать станет. Ну и само копейку на этом заработает, не без того...

В частности, квоты на ввоз рыбы будет определять специальная комиссия на основе открытого конкурса. За участие в этом конкурсе нужно будет платить 20 базовых величин — на обеспечение работы комиссии. Ну и ряд других моментов, прописанных в указе.

"Все это — продолжение монополизации государством внешней торговли и наиболее доходных статей критического импорта, — говорит эксперт аналитического центра "Стратегия" Ярослав Романчук. — Теперь Управление делами начало заниматься этим особенно активно. Во времена прежнего босса УД Титенкова деньги можно было делать на другом, возможностей было больше внутри страны. Сегодня капитал из страны убегает, в легальной сфере экономики денег становится меньше, поэтому государство пытается поставить оставшиеся финансовые потоки под жесткий контроль.

Это делается, в том числе, и чтобы обеспечить бюджетное финансирование тех проектов, которые будет инициировать Администрация президента".

Последствия принятия указа, по мнению Я.Романчука, будут отнюдь не радужными. Значительная часть импорта рыбы и морепродуктов уйдет в тень, так как многие мелкие поставщики посчитают более целесообразным работать нелегально, пусть даже с риском, чем платить государству. Кроме того, вопреки уверениям разработчиков указа, с уничтожением посредников рыба вряд ли подешевеет, скорее наоборот.

"Одних посредников придавили — других создали, — рассуждает экономист Леонид Злотников. — Лукашенко давно заявлял: все, что дает хороший доход, нужно подвести под государственное управление. Здесь все ясно: отобрать финансовые потоки, которые могут быть у каких-то посредников и которые не дай Бог пойдут на поддержку каких-то независимых политических структур. А потребитель почувствует эти изменения через увеличение цен. Коммерческие посредники конкурируют между собой, и это влияет на цены. В данном же случае устанавливается монополия. Азы экономики — при установлении монополии цены растут".

Так что придется потребителям смириться с тем, что рыба в Беларуси станет дорогим удовольствием. Во всяком случае по цене — под стать мясу. Кстати, Ярослав Романчук усматривает в указе и другие подтексты: поддержать отечественных производителей мяса, чью продукцию население все хуже покупает из-за дороговизны. Хотя вряд ли теперь народ набросится на мясные прилавки: доходы-то не растут... А вот в рыбке доведется себя ограничить, хотя населению страны, где хронически не хватает йода, морепродукты для здоровья крайне необходимы.

*("Белорусские новости".)*



